Народная Воля 17 СТУДЗЕНЯ 1997 г.

Вострая праблема

# “Снікерс” як сімвал прыватызацыі

Іван МАКАЛОВІЧ

Не ведаю чаму, але варта толькі завесці размову аб прыватызацыі, як многія адразу спасылаюцца на гэты шакаладны батончык.

— Вы хочаце аддаць магазіны капіталістам, каб яны і ў іх прадавалі свае “снікерсы”? А дзе мы будзем купляць хлеб і малако? — напорыста і са злосцю пярэчаць прадстаўнікі электарату ўлад.

Другія, не менш доказна, пераконваюць:

— А ці ведалі вы раней пра існаванне гэтых “снікерсаў” і “баунці”? Ці часта елі бананы? А цяпер можаце ў любы час пачаставаць імі дзяцей і паласавацца самі. Што тут кепскага?

Такія два погляды на прыватызацыю. А “снікерс” у якасці аргумента, відаць, стаў таму, што ён аказаўся ў ліку першых заморскіх дзіковін, завезеных да нас прыватным бізнесам ды па дужа высокай цане напачатку.

Тым не менш прыватызацыя ідзе. Праўда, са скрыпам, павольна. І ў асноўным пакуль толькі малая. Гэта значыць — у сферы гандлю і камуналкі. Ідзе з дапамогай Міжнароднай фінансавай карпарацыі. І грунтоўна мяняе погляды.

## 1. Пілотны праект МФК

Міжнародная фінансавая карпарацыя (МФК) заснавана ў 1956 годзе для аказання садзейнічання ў станаўленні прыватнага сектара ў краінах, якія сталі на шлях развіцця. Для гэтага яна прадастаўляе крэдыты і кансультацыйныя паслугі ўрадам на аснове тэхнічнай экспертызы і вопыту работы ў 90 краінах свету. Штогод на фінансаванне праектаў ёю выдзяляецца каля 4 мільярдаў долараў.

З мая 1993 года МФК аказвае дапамогу і Беларусі ў правядзенні малой прыватызацыі. Дзякуючы фінансаванню праекта Агенцтвам ЗША па міжнароднаму развіццю, гэта работа праводзіцца “безвозмездно” і мае форму тэхнічнай дапамогі гарадам нашай краіны пры падрыхтоўцы аўкцыёнаў і продажы аб’ектаў камунальнай гаспадаркі, правядзенню семінараў для членаў працоўных калектываў прыватызуемых прадпрыемстваў.

Напачатку было вырашана, што месцам правядзення пілотнага праекта МФК “Малая прыватызацыя ў Беларусі” стане горад Брэст. У адпаведнасці з заканадаўствам нашай краіны была распрацавана аўкцыённая мадэль прыватызацыі камунальных аб’ектаў. І ў верасні 1993 года ў Брэсце праведзены першы аўкцыён.

Пілотны праект прайшоў удала, і справа атрымала працяг. Урад Беларусі папрасіў МФК дапамагчы іншым гарадам. Цяпер работа распачата ў дзесяці цэнтрах.

Яна высвячае даволі красамоўныя факты. Вось апошнія з іх. 20 і 23 снежня прайшлі чарговыя аўкцыёны ў Брэсце, Мінску і Баранавічах. У сталіцы прададзена 3 аб’екты. Магазіны па вуліцы Купрыянава і Глебкі куплены за 32 мільёны і 290 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Напружаная барацьба вялася за пральню па вуліцы Сонечнай. Першапачатковая цана за яе была 575 мільёнаў рублёў. У ходзе таргоў яна вырасла да мільярда 110 мільёнаў. Важна, што яна прададзена з умовай — захаваць сваё прызначэнне. Гэта значыць, што хутка мінчане змогуць ацаніць узровень паслуг першай у горадзе прыватнай пральні.

На аўкцыёне ў Брэсце мясцовы прадпрымальнік купіў кафэ “Чырвоная Шапачка” за 660 мільёнаў рублёў. Цікава прайшоў аўкцыён у Баранавічах. Шасцёра жадаючых змагаліся за пакупку цырульні. Яны ўзнялі першачарговую цану ў 34 разы. У рэшце рэшт яе купіў мясцовы прадпрымальнік за мільярд 400 мільёнаў рублёў.

Цяпер давайце пазнаёмімся з агульнымі вынікамі праекта “Малая прыватызацыя ў Беларусі”.

Што схавана за гэтымі лічбамі? Што стрымлівае прыватызацыю? І якія перспектывы? Аб гэтым у наступнай публікацыі.

### Вынікі аўкцыёнаў па продажы аб’ектаў камунальнай уласнасці, праведзеных пры тэхнічнай падтрымцы МФК “Малая прыватызацыя ў Беларусі” на 23 снежня 1996 года

| Горад (дата правядзення першага аўкцыёна пры тэхнічнай падтрымцы МФК) | Агульная колькасць аўкцыёнаў, праведзеных з удзелам МФК | Агульная колькасць аб’ектаў, прыватызаваных на аўкцыёнах, арганізаваных з удзелам МФК | У тым ліку купленых | | Агульны кошт прададзеных на аўкцыёнах аб’ектаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | замежнымі ўдзельнікамі | працоўнымі калектывамі | беларускіх рублёў* (тысяч) | USD |
| **Мінская вобласць** | | | | | | |
| Мінск (10.11.95) | 12 | 38 | 1 | 1 | 22,773,954 | 1,612,582 |
| **Брэсцкая вобласць** | | | | | | |
| Брэст (29.09.93) | 21 | 72 | 4 | 13 | 13,672,986 | 2,073,325 |
| Кобрын (20.07.94) | 10 | 19 | 1 | 1 | 1,373,675 | 123,530 |
| Баранавічы (20.12.95) | 12 | 15 | 0 | 2 | 7,620,400 | 514,728 |
| Пінск (17.09.96) | 6 | 8 | 0 | 1 | 961,000 | 64,097 |
| Вобласць** (29.02.94) | 1 | 14 | 1 | 0 | 941,000 | 171,005 |
| **Гродзенская вобласць** | | | | | | |
| Гродна (27.05.94) | 20 | 67 | 1 | 1 | 20,631,700 | 2,322,268 |
| Ліда (31.10.95) | 5 | 7 | 0 | 0 | 1,948,000 | 144,973 |
| Смаргонь | 1 | 2 | 0 | 0 | 190,200 | 16,539 |
| Навагрудак (28.09.95) | 3 | 3 | 0 | 0 | 361,585 | 31,442 |
| **Віцебская вобласць** | | | | | | |
| Віцебск (06.09.96) | 5 | 8 | 0 | 0 | 890,800 | 58,477 |
| Орша (29.11.94) | 14 | 37 | 0 | 7 | 5,653,350 | 459,752 |
| Вобласць | 4 | 5 | 0 | 0 | 1,873,000 | 125,390 |
| **Гомельская вобласць** | | | | | | |
| Гомель (21.02.96) | 11 | 28 | 0 | 2 | 8,439,717 | 595,698 |
| **УСЯГО** | **122** | **323** | **8** | **28** | **87,331,367** | **8,313,806** |

* *Цэны да 20 жніўня 1994 года прыведзены з улікам дэнамінацыі беларускага рубля.*

** *МФК аказвала дапамогу Брэсцкай вобласці па продажы аб’ектаў абласной камунальнай уласнасці:*
*2 такія аб’екты былі прададзены на абласным аўкцыёне 25 лютага 1994 года;*
*8 — на пяці Брэсцкіх гарадскіх аўкцыёнах;*
*4 — на двух Баранавіцкіх гарадскіх аўкцыёнах.*

*30 аўкцыёнаў былі праведзены ў гэтых гарадах да заключэння дагавора з МФК (6 — у Мінску, 3 — у Баранавічах, 2 — у Оршы, 1 — у Гродне, 14 — у Гомелі, 2 — у Лідзе, 1 — у Навагрудку, 1 — у Кобрыне).*

*Таму агульны лік праведзеных у гарадах аўкцыёнаў — 152.*

Версія

# Тры этапы моўнай эвалюцыі прэзідэнта Лукашэнкі

Навагодняе віншаванне беларускаму народу Аляксандр Лукашэнка зачытаў на рускай мове. Я не паленаваўся, пателефанаваў сваім калегам ва ўсе рэспублікі былога СССР. І высветлілася: і нашыя самыя бліжэйшыя суседзі, такія, як Альгірдас Бразаўскас ды Леанід Кучма, і тыя, хто знаходзіцца ад нас значна далей, напрыклад Лявон Тэр-Петрасян альбо Эдуард Шэварднадзе, размаўлялі са сваім народам на роднай мове: літоўскай, украінскай, армянскай, грузінскай... Нават прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмонаў, які, як ніхто іншы, на абшарах былога СССР абавязаны сваёй уладай Маскве, абраў для размовы з суайчыннікамі мову сваіх продкаў. Такім чынам, атрымліваецца, што ў гэтых шчыльных шыхтах Лукашэнка займае асобнае месца.

Але ж так было не заўсёды. Узгадайце: спачатку, калі беларускі прэзідэнт яшчэ толькі прыходзіў у сябе пасля таго, як на ягоныя плечы нечакана зваліліся царскія паўнамоцтвы, ён, аддаючы перавагу рускай, усё ж такі час ад часу ўжываў і родную мову. Ён разумеў: нельга дражніць дэмакратаў, інакш яны будуць перашкаджаць зацвердзіцца на пасадзе, узяць уладу цалкам у свае рукі. І сапраўды, памятаю, як спачатку той-сёй з дэмакратычных палітыкаў аж слязу пускаў, слухаючы, як “бацька” шпарыў па-беларуску падчас выступу ў дзяржфілармоніі. Гэта быў першы этап моўнай эвалюцыі Лукашэнкі.

Беспакаранае збіццё апазіцыі ў красавіку 1995 года, вынікі травеньскага рэферэндуму паказалі — уся ўлада ў руках прэзідэнта. А таму няма патрэбы больш прыкідвацца: ды ну яе да д’ябла, гэтую родную мову. Так пачаўся другі этап моўнай эвалюцыі Лукашэнкі. Усюды ён размаўляе толькі па-руску, а беларускія словы ў прамовах з’яўляюцца менавіта з адной мэтай — абразіць сваіх палітычных апанентаў. Адсюль і такія здзеклівыя, зняважлівыя пасажы тыпу “ня меў улады”, “спадарыдэмакраты” ды ім падобныя.

Напрыканцы 1996 года гэтыя слоўцы, якія выклікалі агідныя, лісьлівыя ўсмешкі ва ўдзельнікаў усялякіх усебеларускіх народных сходаў ды пасяджэнняў вертыкальшчыкаў, неяк раптоўна зніклі з лексікону кіраўніка беларускай дзяржавы. Пачаўся трэці этап моўнай эвалюцыі Лукашэнкі. Назіраючы за яго апошнімі выступленнямі па тэлебачанні, лёгка заўважыць некаторыя змены. У мове прэзідэнта ўсё менш прыкмет беларускасці. Усё больш бачны намер паказаць сябе “чыстакроўным русаком”. З’ява гэтая, здаецца, яшчэ нікім не асэнсоўвалася. Але здзіўляцца тут няма чаго. Навукоўцы-філолагі не бяруцца за гэтую тэму па добра вядомай прычыне — як кажуць, ад грэху далей. І ў гэтым яны маюць рацыю.

Але змяненні ў моўнай палітыцы прэзідэнта трэба вылучаць зыходзячы не з філалагічных, а з палітычных мэт і сродкаў. Цяпер, калі шмат каму зразумела, што пачалася барацьба за ўладу ў Крамлі, беларуская мова ўвогуле стала Аляксандру Рыгоравічу непатрэбнай. Наадварот, цяпер Лукашэнка хоча, каб усе, асабліва ў Расіі, забыліся пра тое, што ў графе “нацыянальнасць” у прэтэндэнта на трон у аб’яднанай беларуска-расійскай дзяржаве значыцца слова “беларус”. Які сёння да д’ябла беларус, калі прыходзіць час ухапіць скіпетр.

Калі ж Лукашэнка ўсё ж такі здолее ўладкавацца ў Крамлі, не думаю, што там ён канчаткова адмовіцца ад беларускай мовы. Калі-небудзь у Вялікім тэатры ў “Дни культуры Белоруссии”, назіраючы за тым, як яговыя суайчынніцы таньчаць"Лявоніху", Аляксандр Рыгоравіч, магчыма, і ўзгадае два-тры словы па-беларуску. Трэба ж будзе хоць нечым кампенсаваць каланіяльнаму народу страту нацыянальнай самастойнасці.

Наіўны Іван Пятровіч Шамякін у адным з нумароў “Народнай волі” распавядаў пра тое, што ён напрыканцы мінулага года напісаў ужо другі ліст прэзідэнту Лукашэнку. Пісьменнік нагадвае, што калі на Беларусі цяпер дзве дзяржаўныя мовы, дык і прэтэндэнт на пасаду ў дзяржаўным апараце павінен, як, напрыклад, у Бельгіі, валодаць імі абедзвюма. На свой першы ліст Іван Пятровіч адказу так і не атрымаў. Баюся, што народны пісьменнік не дачакаецца адказу і на другі ліст.

Якая тут беларуская мова, калі наперадзе так заманліва зіхаціць рубінавая зорка Крамля!

**Уладзімір ГЛОД.**

Задумаемся

# Как предупредить гибель людей от пожаров?

**Ежегодно Государственная военизированная пожарная служба участвует в ликвидации более 36 тысяч пожаров, аварий и стихийных бедствий. За пять лет жертвами пожаров стали 3 тысячи 254 человека. По предварительным данным, в ушедшем году огонь забрал жизни около 700 жителей республики.**

Темпы роста негативных тенденций активизировали необходимость разработки Государственной программы действий по предупреждению гибели людей от пожаров на 1997—2005 годы.

Поскольку 60 процентов общего количества пожаров происходит в сельской местности, на Министерство внутренних дел, органы местного управления, другие ведомства возлагается ряд задач, касающихся профилактики пожаров и действенного реагирования на них в жилом секторе. Прежде всего это оснащение и увеличение числа пожарных частей в сельской местности. Важно регулярное проведение телефонизации всех населенных пунктов, разработка и введение в штаты пожарных частей автомобилей быстрого реагирования. Требуется регулярное проведение подворных обходов и пожарно-технических обследований жилья, оказание практической помощи одиноким, престарелым, инвалидам, многодетным семьям, дома или квартиры которых нуждаются в замене ветхой электропроводки, ремонте печного отопления, газового оборудования. Следует предусмотреть также расширение системы детского организованного отдыха в период каникул и многое другое.

Разработчиками программы предлагается целый ряд социальных мероприятий по спасению людей от пожаров. На органы местного управления возлагается организация в сельской местности постоянно действующих и сезонных межколхозных домов ветеранов, создание там комфортных и безопасных условий проживания. Предлагается провести всесторонний анализ условий жизни одиноких, престарелых граждан и инвалидов, оказать им реальную помощь, в которой они нуждаются. Поскольку в огне гибнет немало детей (около 300 за последние пять лет), ряд разделов Программы направлен на усиление пожарной безопасности в семьях и детских учреждениях. Ставится вопрос о выделении дополнительных средств на содержание садиков, уменьшении родительской платы за пребывание в дошкольных учреждениях на селе, оборудовании детских домов (как и квартир одиноких и престарелых, инвалидов, многодетных семей) автономными пожарными извещателями для своевременного обнаружения пожара и сообщения о нем.

**(Вестник БЕЛТА “В кабинетах власти”.)**

Стало известно, что...

## Элизабет Шродтер солидарна с демократами Беларуси

На имя председателя Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Семена Шарецкого поступил факс от Элизабет Шродтер, члена Европейского парламента, главы делегации по связям с Беларусью, Украиной и Молдовой. В нем в частности, говорится:

“Я уверяю Вас в своей полной солидарности и в своем неизменном желании поддерживать Ваши заслуживающие восхищения усилия по сохранению и развитию демократии в Беларуси.

Выражая нашу солидарность со всеми истинными демократами Беларуси, которые в эти дни подвергаются гонениям со стороны лиц, выступающих против права закона и всех законных норм, мы выражаем уверенность, что действия г-на Лукашенко вызовут энергичное противодействие народа Беларуси”.

**Нина МАРКОВСКАЯ.**

## “Не прызнаюць” кангрэс

Як паведаміў нам прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Генадзь Быкаў, да гэтага часу не рэгіструюць іх арганізацыю. Створана яна яшчэ ў 1993 годзе. Але Мінюст усё адкладваў “прызнанне” яе, выстаўляючы розныя зачэпкі. Мінулай восенню прафсаюзы правялі новы з’езд і зноў накіравалі дакументы ў міністэрства на рэгістрацыю, улічыўшы папярэднія заўвагі. Ды Мінюст зноў адмовіўся зарэгістраваць кангрэс прафсаюзаў. Тады яны звярнуліся ў Вярхоўны суд. Днямі яны адтуль атрымалі паведамленне, што, маўляў, такая справа не падлягае разгляду.

Кола замкнулася. По закону грамадзяне могуць утвараць свое аб’яднанні, а вось рэгіструюць, аказваецца, далёка не ўсіх.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Мастацтва не для банальных

На мінулым тыдні ў сталічнай галерэі сучаснага мастацтва “6-я лінія” (Я. Коласа, 14) адкрылася выстава двух маладых беларускіх фотамастакоў Ігара Саўчанкі і Надзеі Кароткінай “Па той бок банальнасці”. Гэты праект экспаніруе каля сотні фатаграфій. На першы погляд, яны ўяўляюць сабой банальныя выявы, якія мы звычайна назіраем з акна поезда. Аднак у своеасаблівай атмасферы, пры свечках і музыцы Р. Вагнера з оперы “Валькірыя”, гэтыя карцінкі неяк цудоўна ажываюць.

Усе работы фотамастакоў — жэлацінава-срэбныя адбіткі на матавай паперы, якія аўтары размясцілі знізу уверх на белай сцяне. Кожная карцінка служыць як бы працягам папярэдняй: вось “Тая, якая ўжо ідзе яму насустрач і зараз з’явіцца з-за гэтага павароту”, пасля яе — “Дрэва каля павароту, дзе іх зараз дагоніць дождж”, потым — “Яшчэ не аблісцелае дрэва на іх палянцы” і так далей.

Выстава будзе дзейнічаць да канца студзеня. Але цалкам зразумеюць тое, што хацелі сказаць нам яе аўтары, толькі сапраўдныя аматары альтэрнатыўнага мастацтва.

**Марына РАССАФОНАВА.**

*Фелікс ШКІРМАНКОЎ*

## Рулетка лёсу

*Рулетку лёсу раскруціў круп’е,*
*Нікому слова супраць не даруе*
*І выйграць толькі тым дае,*
*Хто захапляецца, як ён махлюе.*

*О, гэта цуда-казіно!*
*Грыміць аркестр, музыкі ў ражы.*
*Рулетка круціцца, а з вуліцы*
*ў акно*
*За мной цікуюць хлопцы*
*ў камуфляжы.*

*Я ўсё сабе кажу, што гэта сон:*
*Прачнуся — і пачвара згіне.*
*Няўжо на нас сышоў*
*з нябёс праклён*
*І доля лепшая надоўга нас пакіне?*

*Стаім на самым на краі*
*Страшэннай бездані без*
*роднай мовы.*
*Мы адракліся ад яе, а сёння карані*
*Сваёй адметнасці прадаць*
*гатовы.*

*Манкурты зноў перамаглі.*
*Калі стаміліся, спыніліся коні.*
*І шлях да беларускае зямлі*
*Стаў пахавальным шляхам*
*для Пагоні.*

*Прадалі ўсё, цяпер адно*
*Прадаць нам засталося свае душы.*
*А мо аддаць і так, бо нам*
*лапшу даўно*
*“Старэйшы брат” навешвае*
*на вушы?*

*О, гэта цуда-казіно!*
*Рулетка круціцца, музыкі ў ражы,*
*Як тэрмінатар ў жудасным кіно,*
*Круп’е з дубінкаю і ў камуфляжы.*

## У “Пілоце” — пілотная праграма

Непрыкметна і амаль без усялякай рэкламы ў сталіцы адкрыўся новы начны клуб “Пілот” (праспект Машэрава, 105, Інстытут фізкультуры). На адкрыццё клуба прыехаў вядомы нью-йоркскі дзі-джэй, які ўсю першую ноч працаваў для нашай моладзі. Заакіянскі прафесіянал пакінуў пасля сябе немаленькую “спадчыну”: 800 дыскаў і прайгравальнік.

Плануецца, што “Пілот” будзе адчынены тры-чатыры разы на тыдзень. Падумала кіраўніцтва “Пілоту” і аб тым, каб клуб меў залу ігральных аўтаматаў і більярдную, летнюю дыскатэку на свежым паветры, спецыяльную залу для аматараў ролікаў.

**Уладзіслава ЛЕНСКАЯ.**

Паведамляем падрабязнасці

# Дзевяць злачынцаў зноў за кратамі. Шукаюць дзесятага...

Не толькі супрацоўнікаў праваахоўных органаў, але і ўсіх брастаўчан узбударажыла 10 студзеня паведамленне аб дзерзкіх уцеках з Брэсцкага следчага ізалятара дзесяці асабліва небяспечных злачынцаў. Таму што на волі апынуліся забойцы, не аднойчы судзімыя грабежнікі, мацёрыя зладзеі, ад якіх можна было ўсяго чакаць. Зрабіўшы праход у сцяне ізалятара, яны з дапамогай прасціны выбраліся на дах будынка, адкуль і спусціліся ўніз. На шчасце, уцекачоў заўважыла адна з брастаўчанак, якая паведаміла ў міліцыю. Інфармацыя гэта дала магчымасць аператыўна пачаць іх пошук.

БЕЛТА паведамляла ўжо аб тым, што на працягу трох наступных сутак у выніку ўмелых дзеянняў Брэсцкага АМАПа і аператыўных служб міліцыі ўдалося зноў пасадзіць за краты дзевяць з дзесяці ўцекачоў. Некаторыя падрабязнасці затрымання прыводзяцца ў новых матэрыялах, атрыманых карэспандэнтам БЕЛТА у прэс-службе УУС аблвыканкома.

Ужо ў пятніцу, 10 студзеня, на адной з кватэр у Паўднёвым гарадку Брэста былі затрыманы бабруйчанін Віталь Якаўлеў і ўраджэнец Астраханскай вобласці Віктар Сейфітдзінаў. Абодва яны знаходзіліся пад следствам за крадзяжы ў асабліва вялікіх памерах і разбойныя напады. А к вечару таго ж дня ў вёсцы Гершоны Брэсцкага раёна быў затрыманы брастаўчанін Віктар Казлоў, які ўчыніў злоснае хуліганства, крадзяжы, падпал.

У нядзелю вызначыліся сышчыкі Ленінскага РАУС Брэста, якія вылічылі ў горадзе адну з кватэр-прытонаў. Супрацоўнікі АМАПа літаральна за тры мінуты паклалі на падлогу адразу пяць злачынцаў-уцекачоў. Яны хаваліся: хто ў туалеце, хто — у шафе, хто — пад ложкам. Ні адзін з іх не быў ўзброены і не паспеў аказаць супраціўлення.

Вось “паслужны” спіс адпраўленай у турэмную камеру пяцёркі. Па падазрэнню ў забойстве быў затрыманы бабруйчанін Андрэй Навоеў. А Юрый Нарчанка з Хойніцкага раёна, да гэтага ўжо судзімы за наўмыснае забойства, учыніў новае разам з крадзяжамі ў асабліва вялікіх памерах і падпалам жылля. За забойства з асаблівай жорсткасцю ў сакавіку мінулага года брэсцкай дзесяцікласніцы чакаў свайго лёсу у СІЗО і жыхар Жодзіна Алег Кудраўцаў. У гэтай кампаніі забойцаў апынуліся таксама брастаўчанін Яўген Прокшын і жыхар Казані Эльдар Валееў, якія абвінавачваліся ў грабяжах і разбоі.

А ў панядзелак, 13 студзеня, апоўдні на вуліцы Брэста быў затрыманы і дзевяты ўцякач — армянін Гарык Арзуманян, абвінавачваны ў забойстве брэсцкага валютчыка. На волі пакуль застаецца толькім брастаўчанін Станіслаў Салавейка, які знаходзіўся ў следчым ізалятары за серыю крадзяжоў ў асабліва вялікіх памерах. Яго пошук актыўна працягваюць брэсцкія міліцыянеры, якія, цяпер гэта ўжо можна сказаць, праявілі высокі прафесіяналізм і аператыўнасць пры пошуках асабліва небяспечных злачынцаў.

Па факту ўцёкаў заведзены новыя крымінальныя справы. Праводзіцца службовае расследаванне, якое дасць ацэнку дзеянням кантралёраў следчага ізалятара, якія дапусцілі такое надзвычайнае здарэнне. Дарэчы, другое за апошні год. Таму што вясной мінулага года з гэтага ж ізялатара ўдалося ўцячы Віктару Сахно, які абвінавачваўся ў цяжкім злачынстве. Тады яго пошук працягваўся каля двух месяцаў і завяршыўся смерцю злачынца.

**Іван КУКСА,**

Брэст

Интимная тема

# “Я — Витя, а не Света”

## Сегодня в республике готовы изменить свой пол 39 человек

**Несмотря на происки секс-меньшинств, от полового деления человечества на мужчин и женщин никуда не денешься. Если родился Александром Петровичем, таковым и умрешь. Однако если верить статистике, каждый стотысячный житель нашей планеты — транссексуал, или говоря языком медиков, человек с синдромом отрицания пола. То есть по форме и по физиологии он, например, женщина, а изнутри, подсознательно чувствует себя мужчиной. Представить состояние, в котором пребывают эти люди, очень сложно. Они готовы порой на все, только бы сменить свой пол на противоположный. В последние годы операции по смене пола стали для транссексуалов действительно панацеей от преследующих их всю жизнь бед.**

**В Беларуси в Минской областной больнице уже несколько лет практикуют подобные операции. И сегодня готовы изменить свой пол хирургическим путем 39(!) пациентов.**

... В кабинет сексопатолога Капустина заглянул приятной наружности юноша и на пару секунд прервал нашу беседу. Ссылаясь на занятость, Дмитрий Зиновьевич попросил его подождать в коридоре и хотел было продолжить разговор, но вдруг замолчал, хитро улыбнулся и сказал:

— Хотите пообщаться с транссексуалом?

— ???

— Он только что заглядывал в кабинет.

С трудом представляя, о чем мы будем говорить, я все же согласилась, подсознательно чувствуя, что из этого может получиться интересное интервью. Так я познакомилась со Светой К., 25-летней женщиной-транссексуалом, которую минутой раньше приняла за молодого симпатичного юношу.

**— Как к тебе лучше обращаться?** — задала я свой первый вопрос.

— Зови меня Витей. Я так привык.

**— А когда впервые ты почувствовал, что женский образ для тебя — это как бы оболочка, а изнутри ты мужчина?**

— В детстве. Сколько себя помню, всегда любил играть в мальчишечьи игры, терпеть не мог платья и бантики, силой заставлял себя носить женскую одежду. А в первом классе я страстно влюбился в свою соседку по парте. Потом мама стала замечать, что со мной творится что-то неладное. Я долго боялся признаться ей, что ощущаю, почему так веду себя, и только в 12 лет осмелился рассказать ей, что со мной происходит.

**— И какая у нее была реакция?**

— Ввалила мне по первое число. Но уже не заставляла носить платья и разрешила сделать стрижку.

**— А ты не пытался спросить у мамы, что она чувствовала и как вела себя во время беременности? Может, она хотела родить мальчика, а на свет появился ты?**

— Не успел. Шесть лет назад мама умерла.

**— А другие родственники у тебя есть?**

— Да. Старший брат и две сестры.

**— И как они относятся к тому, что ты транссексуал?**

— Я благодарен богу, что они меня понимают и поддерживают. Им вообще сложнее, чем кому бы то ни было, привыкнуть к тому, что я Витя, а не Света. Правда, в последние годы это шоковое состояние прошло, они понимают, что я — мужчина, что мне нужна операция. Они переживают, волнуются за мое здоровье.

**— Ты где-нибудь работаешь?**

— Да. В частной фирме.

**- И там знают, кто ты на самом деле?**

— Конечно. По паспорту я — женщина. Но все обращаются ко мне как к мужчине, и я не чувствую себя “не в своей тарелке”.

**— А как складываются отношения с противоположным полом?**

— У меня есть любимая девушка, с которой я встречаюсь больше года. Как только я поменяю паспорт и сделаю операцию, мы поженимся.

**— А ее родители?**

— Может, тебя это и шокирует, но я прежде познакомился с ее мамой, а потом с ней. Ходил к ним в гости, а однажды набрался смелости и сказал Алене ( так ее зовут):"Выходи за меня замуж". Она удивилась и сказала, что это невозможно. А спустя пару месяцев Алена задержала меня перед уходом и поцеловала. С этого дня мы стали встречаться почти каждый день, а затем она познакомила меня со своими родственниками.

**— Извини меня за бестактный вопрос. Насколько я понимаю, после операции ты не сможешь иметь собственных детей. Твою спутницу это не смущает?**

— Что касается детей, то этот вопрос мы обсудили и пришли к единому мнению. Желательно, конечно, Алене сделать искусственное оплодотворение, чтобы она ощутила себя матерью и не была лишена данного ей богом предназначения родить ребенка. Если не получится, мы готовы взять малыша из детдома и воспитывать его.

**— Когда ты решил для себя, что тебе необходимо сделать операцию?**

— В 1991 году я узнал, что операции по смене пола делают в Риге и в Ростове-на-Дону. Несколько раз писал туда, но ответа не получил. Потом я совершенно случайно прочел в одной из газет заметку о том, что такие операции делают у нас в Минске, в Боровлянах, да к тому же бесплатно. Я тут же поехал туда и узнал, что мне нужно пройти обследование и только потом меня “переделают”.

Я делал все, что говорили мне в сексопатологическом центре, и сейчас жду заключения комиссии, которая должна решить мою судьбу.

**— А что это за комиссия?**

— Я точно не знаю. Но чтобы меня согласились оперировать, нужно не один год наблюдаться у сексопатолога, пройти обследование в психиатрической клинике, а затем представить документы этой комиссии, куда входят, насколько я знаю, врачи и специалисты из разных ведомств.

**— А ты не опасаешься за свое здоровье? В любом случае согласишься на операцию?**

— Операция — это единственный для меня шанс стать тем человеком, которым я себя чувствую. И пусть я проживу меньше, но нормально и свободно.

... Едва ли не все транссексуалы придерживаются подобного мнения. Операция по смене пола дает им, по сути, вторую жизнь. Еще более важное значение имеет смена паспорта. Один пациент доктора Капустина рассказывал, что, когда наконец-то в загсе ему выдали паспорт, где в графе вместо Ольга Николаевна значилось Валерий Николаевич, он на протяжении месяца просыпался каждую ночь, брал новый паспорт и целовал его. Эта запись открывала в жизни мужчины новую страницу. Теперь он мог узаконить свои отношения с любимой женщиной, поменять работу и место жительства, а главное — ощутить себя полноценным человеком.

Система смены пола в советские годы была у нас четко отработана. Пациент обращался за помощью к врачу-сексопатологу, который после обследования и многочисленных бесед направлял его в психиатрическую клинику. Там выясняли, все ли нормально у пациента с психикой и не является ли его желание изменить пол не плодом больного воображения. Если результат был “положительный”, транссексуал в течение года наблюдался у врача-сексопатолога. На него заводилась карточка, собирались необходимые документы. Ответственность за его дальнейшую судьбу брала на себя комиссия Министерства здравоохранения СССР, куда входили представители разных ведомств и врачи. Если комиссия определяла, что перед ней не самозванец, а действительно транссексуал, которому необходимо сменить пол, пациенту выдавалась справка, на основании которой в загсе менялись свидетельство о рождении, паспорт и все остальные документы. Еще год пациент наблюдался у врача, адаптировался к жизни в новом амплуа и затем получал направление на операцию.

Операция по смене пола, которую практикуют и белорусские хирурги, делается в несколько этапов. Если врачу предстоит “лепить” из женщины мужчину, то ей прежде удаляют молочные железы, затем яичники и только потом начинается процесс создания фаллоса — как правило, из мышцы бедра или спины. Операции проходят обычно в три-четыре этапа, бывает и в пять-шесть. Это зависит от пациента, от способности его организма принимать новые формы. В московской клинике был случай, когда врачи провели восемь операций, а новый орган так и не прижился.

Последствия смены пола очень серьезны. Врачи не боги: они не могут сделать из женщины полноценного мужчину и наоборот. Сменив пол, транссексуал попадает в постоянную зависимость от гормональных препаратов, у него в десятки раз повышается опасность возникновения онкологических заболеваний. Конечно, пациент об этом знает и тем не менее соглашается на операцию.

Хирурги считают, что далеко не всем транссексуалам нужна операция. Если человек может адаптироваться в жизни, то к хирургическому вмешательству лучше не прибегать. Но сами пациенты готовы платить бешеные деньги, только бы сменить пол.

Несмотря на то что постановлением Кабинета министров в прошлом году утверждена межведомственная комиссия, которая направляет транссексуала на операцию, до сих пор в белорусском законодательстве отсутстует статья о смене документов для транссексуалов. Оперировать пациента без нового паспорта закон не позволяет. Сейчас власти как будто бы рассматривают этот вопрос. Однако сколько воды утечет, пока они признают право небольшой группы людей путем операции сменить свой пол. Впрочем, сложно сказать, признают ли вообще, ведь в мире есть страны, где транссексуализм запрещен и подобные операции не практикуются. Однако хочется верить, что наше государство уважает право каждого человека на частную жизнь и оно не лишит его возможности сделать свой выбор. В пункте противопоказаний к операции есть графа “возраст”: если пациенту не исполнился 21 год, никто из хирургов “работать” с ним не будет. Фактически пациент сам решает, нужна ли ему операция. А поскольку он знает о ее последствиях, я думаю, что решение принимается не наобум. Стоит ли тогда держать человека в ловушке собственного тела, когда есть шанс помочь ему?

**Мария ЭЙСМОНТ.**

